# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 49 (1751) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 3 СНЕЖНЯ 1989 г. ЦАНА 250 зл.



Пётр Гуд на беларускім кірмашы ў Століне (Брэсцкая вобласць) з галоўнай узнагародай сельскагаспадарчай латарэі.

## КАБ НЕ ШЧЫМЕЛА Ў ДУШЫ...

У палове лістапада, ужо другі раз у бягучым годзе, нашу рэдакцыю наведаў Пятро Гуд, выконваючы абавязкі загадчыка кафедры рэжысуры масавых свят у Мінскім інстытуце культуры. Прыехаў ён у складзе беларускай дэлегацыі, каб падпісаць дагавор аб супрацоўніцтве паміж беластоцкім „Кур'ерам Падляшскім", газетай „Вячэрні Мінск" і Мінскім інстытутам культуры.

Мы, вядома, не прамінулі такой магчымасці і ўзялі ў Пятра Гуда інтэрв'ю.

— Раскажыце нам, калі ласка, крыху пра Інстытут культуры ў Мінску!

— Інстытут культуры працуе ад 1976 года. Пара станаўлення ідзе, патроху становімся на ногі. Спачатку спецыялістаў было ў Мінску мала і панабіралі людзей з розных рэспублік. Цяпер цяжка ідзе справа з беларусізацыяй рэспублікі. Ёсць намеры, каб перавесці большасць дысцыплін, якія выкладаюцца ў інстытуце, на беларускую мову.

— А якія прадметы выкладаюцца па-беларуску ўжо цяпер?

— Пакуль што гэта толькі цяць прадметаў. Перш за ўсё беларуская літаратура, гісторыя Беларусі і беларуская мова. Апрача таго, этнаграфія і фальклор ды рэжысура народных свят.

— Як беларускую мову прымае моладзь, якая вучыцца ў вас?

— Я б сказаў, што студэнты з вялікай ахвотай ставяцца да беларускай мовы. Часамі здараецца так, што пачынаю чытаць лекцыю і пытаю: „Па-руску?" „Так!" — адказвае хор, а я чытаю па-беларуску. Бачу, як шырока адкрываюцца вочы студэнтаў... А пасля лекцыі падыходзяць да мяне і ўжо гавораць толькі па-беларуску.

— А як, прабачце, справа выглядае з выкладчыкамі? Ці сёння ўсе гатовы перайсці на выкладанне па-беларуску?

— У Інстытуце культуры пакуль што гэта справа выглядае даволі складана. Бяда ў тым, што не толькі выкладчыкі з іншых рэспублік не валодаюць беларускай мовай, але нават і большасць выкладчыкаў з Мінска валодае ёю недасканала. А вось жа пасля вайны ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію былі запрошаны прафесары з Ленінграда, дык яны вельмі хутка навучыліся гаварыць па-беларуску. І выкладалі на беларускай мове, бо разумелі, што яны на Беларусі.

— Скажыце, хто прыходзіць вучыцца да вас у інстытут і дзе пасля гэтыя людзі працуюць?

Прыходзіць моладзь у асноўным з раёна. Пасля працуюць яны ў розных культурна-асветных установах гарадоў і сёл, у дамах культуры, у раённых аддзелах культуры. У нас да гэтай працы яны атрымліваюць даволі ўсебаковую падрыхтоўку.

— А ці маглі б Вы падзяліцца з нашымі чытачамі, як Вы трапілі ў Інстытут культуры?

— Мая дарога ў інстытут была даволі доўгая. Я — мінчук. У

(Працяг на стар. 6)

## БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

Гэтае гамлетаўскае пытанне з цэлай вострасцю стаіць цяпер перад беларускім грамадскім рухам у Польшчы. Змянілася палітычная сістэма ў краіне, мяняюцца таксама ўмовы дзеяння ўсіх арганізацый. Беларускае грамадска-культурнае таварыства ад пачатку свайго існавання атрымоўвала грошы на сваю дзейнасць з бюджэту Міністэрства ўнутраных спраў. І хаця былі гэта адносна невялікія сумы, то гарантавалі яны існаванне таварыства (зарплата для штатных працаўнікоў, аплаты за будынак і т.п.) і вядзенне абмежаванай дзейнасці. Таксама „Ніва" выходзіць дагэтуль на сродкі Беластоцкага прэсавага выдавецтва, якое належыць партыйнаму кааператыву РСВ „Прэса-Кніжка-Рух".

З новага года ўсе арганізацыі нацыянальных меншасцяў мяняюць апекуна. Будзе ім Міністэрства культуры і мастацтва. У сітуацыі, калі ПАРП патраціла ўладу, і што за гэтым ідзе, уплыў на многія дзялянкі грамадска-палітычнага жыцця, РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" хоча адмовіцца выдаваць нерэнтабельную грамадска-культурную перыёдыку. Выращана часопісы, якія друкуюцца на мовах нацыянальных меншасцяў, перадаць таксама Міністэрству культуры і мастацтва. Таму з вялікай цікавасцю і надзеяй ехаў я на спатканне прадстаўнікоў нацыянальных таварыстваў і часопісаў, якое адбылося ў міністэрстве 10 лістапада г.г.

Сустрэўся з намі віцэ-міністр Стэфан Старчэўскі. Заявіў ён, што Міністэрства культуры і мастацтва, у адрозненні ад Міністэрства ўнутраных спраў, якое ўмешвалася ў мерытарычную дзейнасць таварystваў. будзе імкнуцца стварыць нацыянальным арганізацыям умовы свабоднага развіцця і выконваць у адносінах да іх ролю мецэната. Пачынаючы ад студзеня 1990 г. Міністэрства будзе даваць датацыі на некаторыя ініцыятывы і мерапрыемствы, арганізаваныя таварыствамі. На пытанні адносна фінансавых сродкаў на існаванне таварыстваў (зарплаты, утрыманне будынкаў) міністр адказаў, што дзяржава не будзе ўтрымоўваць ні палітычных партый, ні грамадскіх арганізацый. Гэта вынi-

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА. АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 364

НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ

## З цыкла „ВЕРУ”

* ✲ *

ты хочаш
адвярнуцца ад сонца
твой ціхі крок
і твае пальцы
дакранаюцца да сэрца
шаленства жыцця і смерці
сіні круг сіняя гара
у памяці шчасце і камень
сядзь
спакайнеюць гарады і вуліцы

родзіцца зямля...

* ✲ *

расце памяць
у якой задрамалі
зямля

дом
неба
і лагоднае Сонца

* ✲ *

перлы дыямент
шляхетныя камені
уваходзячы ў жыццё
ты зраніш нагу
калі ўпадзеш
на звыклы шэры камень
і пойдзеш далей
углыб ночы

* ✲ *

маё пяро і попел
над белым днём
у кропельцы расы
жыццё

ці гэта раса
ці гэта сляза
ці гэта дождж

плывуць у добрых днях

заснула ноч
а казка ззяе цеплынёй
а ў казцы вера і надзея

зязюля блудзіць мякка

зялёныя коні
белыя коні
белыя кадры

дабранач вам
хутка світанне

АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК

## НАЧНЫ МАНАЛОГ ДА LOUISE

падыходжу да цябе
і хачу
ведаеш
хачу сказаць
дзень канчаецца
ноч наступае
і мы заглыбляемся
у цішыню

у цішыню мы
ведаеш
з ляснога краю мы
са стогнам малітваў
і ціканнем гадзіннікаў
інакш не можам
трэба ў цішыню

трэба ў цішыню
каб захаваць
ведаеш
сваю фізіяномію
сваю звярыную чалавечнасць
а потым адыйсці

а потым адыйсці
і забыць
ведаеш
забыць што яшчэ мы
што яшчэ разам
хаця такія фальшывыя
разам нам трэба

разам нам трэба
у каларыце
ведаеш
у такім дзівосным
падзямеллі
спаткацца
сакратэс там
толькі чаму сакратэс
там
і грыва каня

і грыва каня
ведаеш
крычы стойце мае коні
а яны ляцяць
пегасы гэта ці самалёты
давай адгадаем

давай адгадаем
ведаеш
ці сапраўдныя гэтыя мы
ці маскі нашыя сталёвыя
ці зверы мы толькі

ці зверы мы толькі
ведаеш
ці ўжо аўтаматы і порах
забытыя ўжо
ці аўтаматы

ці аўтаматы
ведаеш
вочы баляць цемрай
баляць валасы страхам
і таму трэба канчаць

і таму трэба канчаць
ведаеш
хаця канца і пачатку
няма
хаця няма

хаця няма
ведаеш
усё гэта
забыццё
і ворагі нашы
і граніцы
і мы
усё гэта
забыццё



## ДЗЯЎЧЫНЕ З ПАЎСВЯТЛА

кароль цябе
не пацалуе
кароль не можа
цалаваць
хаця ў душы
цябе шануе
таму што ўмееш
так спяваць

дурань табе
не кіне верша
бо дурню нельга
лётаваць
хаця ў яго
была ты першай
хаця умееш
так спяваць

паэт цябе
не пакахае
паэт не знае
як кахаць
ён смерці
толькі прычакае

і будзеш ты
яму спяваць
і толькі песня
табе парай
з ёй толькі

будзеш ўспамінаць
што дзесь-калісь
была ты дамай
вучыла іншых
гімн спяваць

ЮРКА БАЕНА

## ХВІЛІНА

*Кожцая хвіліна ў час зеніту*
*Як арнамент на небасхіле вісіць,*
*Расхістаная ў спякоце лета*
*І ў шумных светлаценнях*
*поўдня.*

*У цеплыні блакітнай неба*
*Час напінае свае струны.*
*Над імі казяльцы зырчэюць,*
*Пад імі застаецца бездань.*

*Хвіліна, як спелы адуванчык,*
*Увысь аслупянелая ўзлятае*
*Ці апускаецца без подыху,*
*Празрыстымі фіранкамі*
*закрыта.*

*Іскра! іскра! іскра! —*
*Крычу я быццам на ратунак.*
*Іскра? іскра? іскра? —*
*Сябе пытаю ціха.*

*Да глыбіні ядра ўжо астыгае,*
*Дрыготкая і папялістая,*
*З крат непрыкметна падае*
*ў прорву —*
*Касой адкінула яе камета.*

*Потым хвіліна — нібы ціша,*
*Нібы ў гербарыі засушана*
*былінка:*
*Перад вачыма яшчэ раз узнікне*
*Заўтра, у ранішніх газетах.*

## ЭДЭЛЬВЕЙС

*Эдэльвейс, як зорка, павіснуў*
*у небе:*
*З аднаго боку граніт, з другога*
*— прорва,*
*А гарызонт як сон*
*К даліне хіліцца.*

*Эх! падумайце: халодныя вятры*
*Не раз будзілі ў калысцы.*
*Убогая зямля скалістая —*
*Маці яго, карміліца.*

*А ён? Ну што ж,*
*Кветка гордая, прыгожая,*
*Смела ўгору к сонцу ўецца,*
*Цэлая праменнямі абнятая,*
*Цэлая ў ясных захапленнях.*

*Эдэльвейс! зара пад небам!*
*Аб табе ўсё сняцца сны,*
*З табой яднаюся я сэрцам.*

*І яшчэ здаецца мне,*
*Што ў штодзённасці ў жыцці*
*Часта іду тваім я следам.*



ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Васьмікласнікі школы № 3 у Бельску на ўроку беларускай мовы.

# ШТО ЧУВАЦЬ У БЕЛЬСКАЙ „ТРОЙЦЫ"?

Школа № 3 у Бельску. Гэтую вялікую гарадскую школу (1010 дзяцей) ніхто ў Бельску інакш не называе, як беларускай. І не дзіва. Усе 27 класаў, усе дзеці, пачынаючы ад другога класа, вывучаюць беларускую мову. А ахвотных вучыцца ў „тройцы" вельмі многа. Яшчэ толькі пачаўся новы навучальны год, а бацькі ўжо прыходзяць, каб запісаць дзяцей у школу ад наступнага верасня. Прыходзяць так рана, бо баяцца, што спозняцца, і школа набярэ ўжо поўны кампლект першых класаў. І ўсе добра ведаюць, што ў гэтай школе няма звольненых з беларускай мовы — вучацца ўсе дзеці. Калі хочаш вучыцца ў беларускай школе, падпарадкуйся яе законам.

Прычыны такога напору на беларускую школу напэўна розныя. Але адно пэўнае — у гэтай школе дзеці набываюць ахвоту вучыцца, пазнаюць смак у здабыванні ведаў, развіваюць свае таленты і ўмеюць прыемна праводзіць свой вольны ад заняткаў час. Вялікую ролю адыгрывае і высокі ўзровень навучання ў школе. 60 працэнтаў вучняў паступае ў беларускі ліцэй, а з іх кожныя двое з трох паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта надзвычай вялікі працэнт вучняў, якія здабываюць вышэйшую адукацыю. Нават у маштабе краіны.

Школа рэгулярна займае вядучыя месцы ў прадметных алімпіядах. У мінулым навучальным годзе школа мела 10 лаўрэатаў і гэтым вынікам заняла першае месца. Падставовая школа з Саколкі, якая заняла другое месца, мела шэсць лаўрэатаў. Аб выніках школы ў агульнапольскіх прадметных конкурсах мы яшчэ напішам.

А пакуль што „тройцы" вельмі патрэбна гімнастычная зала. Калі разбудоўваўся школьны будынак некалькі гадоў назад у значнай ступені пры дапамозе бацькоў і бельскага грамадства, ваяводскія ўлады абяцалі ў недалёкай будучыні памагчы і з будовай гімнастычнай залы. Але грошай усё няма. Бацькі і дзеці назбіралі ўласнымі сіламі ўжо 20 мільёнаў злотых. Гэта нямала. І вельмі шкада было б, каб гэтыя грошы і гэтыя намаганні дзяцей, бацькоў і школы патанулі ў моры інфляцыі.

А пакуль што заняткі фізічнага выхавання ў школе адбываюцца ў калідоры. Як відаць на здымку.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Уладзімір Юрэвіч

### БЕЛЫ СТРАХ

Лукашок любіў, калі бабуля давала яму жменю гароху. Ён не еў яго, бо не ведаў яшчэ смаку гароху. А не ведаў смаку, таму што не было яшчэ ўсіх зубоў, каб разжаваць гарошыну.

А гарошыны прыгожыя, кругленькія, але не аднолькавыя — адна гарошына меншая, другая большая, адна жоўтая, другая сіняватая, трэцяя зялёная, а чацвертая проста белая.

Вось і сядзіць Лукашок за сталом, перабірае гарошынкі, пераганяе з аднаго канца стала на другі. Яму вельмі падабаецца што ледзь дакранешся пальчыкам — і пакоціцца гарошына, не дагоніш. А даганяць трэба, бо гарошыны пападаюць долу, і тады бабуля будзе сварыцца. Яна нават прымусіць Лукашка пазбіраць іх усе да адной з падлогі, дастаць і тыя, што пазакачваліся пад крэсла, пад шафку з пасудай, пад пліту. І калі ўсё чыста пазбірае, тады бабуля пахваліць Лукашка, назаве яго малайцом, пацалуе ў галоўку і дасць смачную цукерку.

Калі бабуля ўбачыць, што Лукашок узяў гарошыну ў рот, адразу прыкрыкне:

— Выплюнь, у рот нельга браць. Праглынеш незнарок і тады будзе жывот балець. Прыйдзе белы страх і прыпіша ўколы, а ўколы балючыя.

Белым страхам бабуля называла доктара, бо ён заўсёды ў белым халаце.

Не дазваляе бабуля ў рот браць, дык Лукашок пачаў гарошыны ў нос запіхваць. І так налаўчыўся — запіхне, паветра пацягне, а тады чхне, і гарошына вылятае, як з пісталета выстрэльвае. Весела Лукашку, рагоча, аж заходзіцца.

І вось аднойчы засунуў Лукашок гарошыну, мусіць, меншую за іншыя, чхаў, чхаў каб яна выскачыла, — нічога не выйшла.

— Чаго ты разачхаўся? Наседзеўся пад акном... — Бабуля памацала Лукашкоў лоб. — На во, збяры гарошыны ў місачку. я намачу, а заўтра гарохавую поліўку звару, смачная будзе.

Лукашок паслухаўся, сабраў гарошыны ў місачку, аддаў бабулі. А сам пайшоў у пакой дастаў кубікі і ўзяўся будаваць дом. Але чхаць не пераставаў. Пад вечар і зусім засумаваў хлопчык. Заслязіліся вочы. Памералі тэмпературу — нармальная. Прыйшла мама з работы і пачала распытваць:

— Галоўка не баліць? А жывоцік? А пальчыкі не ломіць? Не, не грып гэта, — супакоіла мама.

Неўзабаве прыходзіць тата і зноў тыя ж роспыты.

Лукашок злуецца, капрызіць. Урэшце зусім расплакаўся. Ледзь спаць уламжылі.

Спаў Лукашок неспакойна.

(Працяг на стар. 10)

# НІЎКА

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

Зборнае — ягады і грыбы.
Згуба — сліна.
Здараўяка — лекар.
Здымнік — фатограф.
Зімародак — народжаны зімой.
Злажыць — кепска існаваць.
Злюдзей — варвар.
Злыдзень — сутачны крызіс.
Значок — важны чалавек.
Зносіны — пацалунак эскімосаў (насамі).
Зубадзёр — дэнтыст.
Зялёнка — трава або салата.
Зямлянін — той, хто працуе ў сельскай гаспадарцы, селянін.
Ігліца — краўчыха.
Іголка — раздзетая.
Індык — жыхар Індыі.
Індыя — хлеў для індыкоў.
Кабачок — малы вяпрук.
Кавалак — густы напітак з кавы.
Кавалер — любіцель кавы.

„Ядань“

## КАМПЕНСАЦЫЯ

Праз вёску праязджала грузавая машына і збіла сабаку. Шафёр затармазіў, выйшаў з кабіны і падышоў да пакалечанай жывёліны. Тут жа прыбегла гаспадыня, стала лаяць шафёра і галасіць на ўсю вёску:

— А што ж мне беднай цяпер рабіць без Бобіка?! Хто ж панадворак пільнаваць будзе, хто ж на чужых забрэша?!

Збянтэжаны шафёр аслупянеў спачатку, а праз нейкі час адазваўся:

— Т-то м-можа я-я якосьці с-скампенсую гэтую с-с-страту?

— О! Глядзі ты яго! — закрычала жанчына. — Ледзь слова патрапіць вымавіць, а мой жа Бобік брахаў без перапынку!

Язэп Карпюк

## У ЛЯСНЫМ РЭСТАРАНЕ

*— Калі ж ты абслужыш, нарэшце, Пятроўна? —*
*разгневаны Заяц спытаў у Лісы.*
*— Цвярозых Мядзведзь прыказаў абслугоўваць,*
*а ты ж у нас, Зайка, „касы“.*

Васіль Гедзька

## АФАРЫЗМЫ

Заўсёды любім тых, хто намі захапляецца, але не заўсёды любім тых, якімі мы захапляемся.

*

Рыса светлых розумаў — выказаць многае ў некалькіх словах, рыса пасрэдных — у многіх словах не сказаць нічога.

*

Той, хто думае, што абыдзецца без усяго свету, моцна памыляецца; але хто думае, што свет без яго не можа абысціся, памыляецца яшчэ мацней.

*

Мы павінны здзіўляцца толькі таму, што можам яшчэ здзіўляцца.

Францс Дэ Ларашфуко

## КАЛІ-НЕБУДЗЬ

**Калі-небудзь усё будзе інакш...**

Я перастану іграць на нервах жонкі, і сын зразумее, што ў некаторых пытаннях я ўсё ж маю рацыю...

Калі-небудзь я кіну курыць і не вазьму ў рот ні кроплі спіртнога.

Я не буду ездзіць на рыбалку, хадзіць на футбол і пераключаць тэлевізар на хакей, калі цешча глядзіць „Клуб падарожнікаў“.

Калі-небудзь я не прайду міма бабуль, не павітаўшыся з імі, а таксама не абзаву паскуднай скацінай суседаву кошку...

Я перастану спазняцца на работу, назаляць прадаўцу, правяраючы рэшту, і ніколі не сяду ў пустым тралейбусе на месцы, прызначаныя для пасажыраў з дзецьмі і інвалідаў... Калі-небудзь...

І тады хто-небудзь усё ж скажа: „А ў прынцыпе нядрэнны быў чалавек. Пухам яму зямля!“.

Ігар Кляпец
(„Вожык“ № 15/89)

— Як толькі ўвойдзе мой муж, рабі „тык-так“.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ОЙ, ДА ІШЛІ ХЛОПЦЫ З ЯРМАРКІ

**(народная)**

*Ой, да ішлі хлопцы з ярмаркі,*
*Ой, да ізрубілі яблыньку.*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да ізрубілі яблыньку.*

*Ой, да ізрубілі яблыньку,*
*Ой, да пасадзілі грушачку.*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да пасадзілі грушачку.*

*Ой, да пасадзілі грушачку,*
*Ой, да на дзявочу душачку.*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да на дзявочу душачку.*

*Ой, да расці, груша садова,*
*Ой, да гуляй, дзеўка малада.*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да гуляй, дзеўка малада.*

*Ой, да гуляй, дзеўка малада,*
*Ой да ці ты пойдзеш за мяне?*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да ці ты пойдзеш за мяне?*

*— Ой, да за цябе я не пайду,*
*Ой, да я казачаньку люблю.*
*Вой-да, вой-да, вой-да, во-ха-ха,*
*Ой, да я казачаньку люблю.*

Умерана ♩=88
Соло
Ой, да і- шлі хло-пцы з я- рма- ркі, ой, да і- зру-бі- лі
Хор
я- бль- ньку. Вой — да, вой — да, вой — да,
во — ха — ха, ой, да і- зру-бі- лі я- блы- ньку.

## Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi. osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne. bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 3.250 zł + 1200 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa. ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 1698/89. Nakład 3.300. T-2.